памяць XX стагоддзя 1921

# Мір у Рызе

Кастусь ТАРАСАЎ

1921 год стаўся годам пасляваенных «разборак». Краіны-пераможцы выстаўлялі рахункі пераможаным. Прыкладам, заходнія дзяржавы-саюзніцы ў студзені патрабавалі ад Германіі выплаты рэпарацыяў у памеры 2.226 мільёнаў марак золатам на працягу 42 гадоў. Разбіраліся таксама і ўнутры краінаў, асабліва, дзе праходзіла грамадзянская вайна. Кранштацкае паўстанне супраць бальшавіцкай дыктатуры было задушанае з надзвычайнай жорсткасцю: 2.000 маракоў вывелі на лёд і расстралялі з кулямётаў. Таго ж года будучы маршал Тухачэўскі прайшоў, як кажуць, агнём і мечам па Тамбоўшчыне, вынішчаючы паўсташых сялянаў.

Той жа 1921 год назаўжды ўпісаны чорным радком у гісторыю Беларусі, бо падпісаная 18 сакавіка 1921 года ў Рызе дамова паміж РСФСР, Украінай і навіта насельніцтва гэтых паветаў (1,5 мільёна) сталі грамадзянамі СССР, калі ў 1922 годзе быў падпісаны Дагавор аб стварэнні Савецкага Саюза.

З параўнання прыведзеных лічбаў вынікае, што 4/5 беларускай нацыі пасля Рыжскага міру працавалі не на стварэнне ўласнай дзяржавы, а на ўзмацненне тых, хто іх захапіў.

Калі ўспрымаць жыццё свайго народа і сваёй дзяржавы з патрэбнай сур'ёзнасцю, дык дзень 18 сакавіка 1921 года павінен яшчэ на добрае стагоддзе заставацца днём нацыянальнага смутку, бо такія удары сякерай па жывым арганізму народа, які толькі пасьпеў прыступіць да стварэння дзяржаўных інстытутаў, перажывалі далёка не ўсе народы. Паляк і пра падзелы сваёй краіны не забываюцца па сённяшні дзень і не забудуцца ніколі. Мы, здаецца, зусім не асэнсавалі тое, што рабілі з намі на-




Вынікі Рыжскага міру

Польшчай падзяліла Беларусь на дзве часткі. Кажучы больш дакладна — на тры. Ад Беларусі ў якасці дзяржавы засталіся, як сведчыць палітычная карта, рэшткі - 52,3 тысячы кв. км і 1,6 мільёна насельніцтва. Наступствы для Беларусі гэтай дамовы, пры падпісанні якой не прагучала ніводнага слова пратэсту беларускага боку, бо старшыню ЦВК Беларусі проста не пусцілі за стол перамоваў, ніхто не ўлічваў. (Праз партыйныя механізмы Беларусь прымусілі даверыць абарону сваіх дзяржаўных інтарэсаў дэлегацыі РСФСР.) Здзеклівыя адносіны да БССР і беларусаў выявіліся ў прапанове прадстаўніка савецкай дэлегацыі А. Іофэ перадаць Польшчы ўсю тэрыторыю Беларусі, захопленую палякамі. Польскі бок адмовіўся, каб не стварыць сабе буйную «беларускую праблему». Таму Польшча ўзяла ўсяго 113 тысяч кв. км беларускіх земляў з насельніцтвам 4,6 мільёна чалавек (палічылі, што з імі праблему вырашаць).

Амаль такая ж частка Усходняй Беларусі — 110 тысяч кв. км і болей за 3 мільёны насельніцтва — была далучаная да Расіі. У 1921 годзе прастору БССР складалі Мінскі, Барысаўскі, Бабруйскі, Ігуменскі, Мазырскі і Слуцкі паветы. Ме-

шыя суседзі.

Польшча ў той дзень 18 сакавіка 1921 года, калі атрымала свой экземпляр Дагавора, які перасоўваў яе дзяржаўную мяжу пад Мінск, атрымала і непазбежную верагоднасць вайны ці паўстанняў, сабатажу, тэрору і да т.п., што ў розных памерах і адбывалася ў наступныя гады. Дамогшыся свайго адраджэння, Польская рэспубліка у Рызе зганьбавала свой гонар, калі пагадзілася захапіць тэрыторыю суседзяў. Гэтак жа ганебна абышлася з Беларуссю РСФСР.

Бяда прыйшла да Польшчы ў 1939 годзе, калі Сталін і Гітлер вырашылі перакройваць карту Еўропы. Наступныя гады вайны прынеслі Польшчы вялізныя страты. Але ў 1939 годзе сярод 450 тысяч палонных польскіх салдатаў было шмат беларусаў з «усходніх крэсаў», мабілізаваных у польскае войска. Былі яны і сярод тых, каго НКУС ставіў на край магільнага рова ў Катыні. Улічваючы беларусаў Беластоцкага ваяводства беларускі народ за гады Другой сусветнай вайны страціў 3 мільёны чалавек.

Усё гэта і вынік, і працяг рыжскай дамовы 1921 года, горкага года нашай нацыянальнай гісторыі. ■

# Дзень уз'яднання

## 60 гадоў таму, 17 верасня 1939 года, Чырвоная армія распачала «Вызваленчы паход» у Заходнюю Беларусь.

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

**Сёлетні юбілей далучэння Заходняй Беларусі да БССР, як і ў савецкія часы, адзначаецца на дзяржаўным узроўні. Паводле распараджэння А. Лукашэнкі, створаны спецыяльны аргкамітэт на чале з шэфам прэзідэнцкай адміністрацыі — для святкавання 60-годдзя ўз'яднання беларускага народа. У спісе святочных мерапрыемстваў фігуруюць урачыстыя сходы, канцэрты, навуковыя канферэнцыі, а таксама выданне спецыяльнай кнігі, прысвечанай юбілею. Галоўны лозунг святкавання — «Беларускі народ — адзіная сям'я». Аднак падобна на тое, што за фразеалогіяй аб працягнутай Савецкім Саюзам у верасні 39-га «брацкай руцэ дапамогі працоўным Заходняй Беларусі» цяперашнія ўлады, як калісьці і бальшавікі, хочуць схаваць праўду пра падзеі 60-гадовай даўніны.**





● **Уверсе:** Польскія ваеннапалонныя. Усяго ў палон патрапілі 450 тысяч салдатаў і афіцэраў. 120 тысяч абаронцаў Варшавы склалі зброю, каб уратаваць горад і насельніцтва.

● **Злева:** Савецкія танкі напярэдадні «Вызваленчага паходу». Страты Чырвонай арміі ў Заходняй Беларусі склалі 787 забітымі, 1.850 — параненымі

Нагадаю, што, згодна з падпісаным 23 жніўня 1939 г. пактам «Молатава-Рыбентропа», акупаваныя Польшчай у 1920 г. тэрыторыі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны ўваходзілі ў сферу інтарэсаў СССР. Першага верасня 1939 г. гітлераўцы распачалі вайну супраць Польшчы, аднак Сталін не спяшаўся аддаваць загад арміі перайсці мяжу суседняй дзяржавы. Відаць, Масква чакала, як адрэагуюць на агрэсію Гітлера супраць Польшчы заходнія краіны. Вялікабрытанія, верная заключанай з палякамі саюзніцкай дамове, вайну Рэйху аб'явіла, але канкрэтных баявых дзеянняў супраць нямецкіх войскаў не прадпрымала. Ад пачатку вайны прайшло больш за два тыдні, нацысты занялі ўсю заходнюю Польшчу і ўзялі ў аблогу Варшаву. Польскі ўрад выехаў у Румынію. Сталін зразумеў, што час урэшце настаў.

А трэцяй гадзіне раніцы 17 верасня намеснік наркама замежных справаў СССР Пацёмкін выклікаў да сябе польскага амбасадара ў Маскве Гжыбоўскага і ўручыў яму ноту, у якой сцвярджалася, што Польшча пацярпела ваенную паразу і перастала існаваць як незалежная дзяржава. Савецкі ўрад павінен аказаць дапамогу насельніцтву Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, якое апынулася перад пагрозай вайны. Таму Чырвонай арміі аддадзены загад узяць пад сваю абарону жыццё і маёмасць заходніх беларусаў і украінцаў. Польскі амбасадар заявіў, што паводзіны кіраўніцтва Савецкага Саюза ёсць непрыхаваны акт агрэсіі. 17 верасня Чырвоная армія пачала імклівы рух у глыбіню Заходняй Беларусі. Да 25 верасня былі ўжо занятыя Беласток і Брэст, дзе савецкія вайскоўцы сустрэліся з перадавымі часткамі вермахта. У гонар «перамогі» над палякамі бальшавікі і фашысты правялі ў Брэсце вайсковы парад, які прымалі савецкі генерал Крывашэін і нямецкі фельдмаршал.

Чаму ж Чырвонай арміі так хутка ўдалося заняць Заходнюю Беларусь? Справа ў тым, што галоўнае камандаванне польскіх узброеных сілаў хоць і лічыла Савецкі Саюз агрэсарам, тым не менш аддала сваім вайскоўцам загад у бой з бальшавікамі не ўступаць і берагчы сілы. Польскія афіцэры атрымалі распараджэнне выводзіць жаўнераў за мяжу, пераважна ў Румынію і Літву.

Адзіным горадам, які аказаў моцнае супраціўленне Чырвонай арміі, было Гродна. Нешматлікі, слабаўзброены гродзенскі гарнізон два дні вёў няроўныя баі. Тых нямногіх абаронцаў Гродна, якія пасля двух дзён баёў былі вымушаныя капітуляваць, савецкія вайскоўцы расстралялі на беразе Нёмана.

Паўсюль на занятай бальшавікамі тэрыторыі ўключна са сталіцай краю Вільняй пачала ўтварацца часовая адміністрацыя, якая павінна была арганізаваць т.зв. выбары ў Народны сход Заходняй Беларусі. Праўда, у Вільні бальшавікі не затрымаліся надоўга. Спачатку горад хацелі ўключыць у склад БССР, была нават створаная часовая гарадская беларуская адміністрацыя, пачала выходзіць газета «Віленская праўда». Аднак у Сталіна былі свае планы адносна заходнебеларускай сталіцы. Нечакана 22 кастрычніка 1939 г. савецкі ўрад вырашыў перадаць Вільню ў склад Літоўскай рэспублікі ў знак прыязні Савецкага Саюза да літоўскага народа. Сапраўдную цану гэтага «падарунка» Сталіна літоўцы зразумеюць гадам пазней, калі Чырвоная армія акупуе гэтую краіну і на 50 гадоў пазбавіць яе народ незалежнасці. Урэшце напрыканцы кастрычніка ў Беластоку пад наглядам НКВД адбыўся Народны сход, які прыняў рашэнне аб далучэнні Заходняй Беларусі да БССР і СССР..

У першы перыяд бальшавікі рабілі выгляд, што клапоцяцца аб сацыяльнай роўнасці і захаванні нацыянальнай самабытнасці жыхароў краю. Сялянам пачалі раздаваць абшарніцкую зямлю, амаль паўсюль адчыняліся беларускамоўныя школы. Але і сялянаў, і тую частку заходнебеларускай інтэлігенцыі, якая спачатку паверыла ў шчырасць савецкіх словаў аб будаўніцтве агульнабеларускага дома, чакала жорсткае расчараванне. Следам за бальшавіцкімі агітатарамі, якія на чырванасцяжных мітынгах распавядалі заходнім беларусам казкі аб шчаслівым савецкім жыцці, прыходзілі энкавэдысты. Многіх беларускіх настаўнікаў, лекараў, юрыстаў і іншых інтэлігентаў з еўрапейскай адукацыяй чакалі лагерныя універсітэты на Калыме, у Варкуце і Магадане. А некаторыя з іх скончылі жыццё ў курапацкіх і катынскіх равах.

Толькі за няпоўныя два гады панавання ў Заходняй Беларусі бальшавікоў сотні тысяч жыхароў краю былі вывезеныя ў сібірскі ГУЛАГ, а ў іх дамы засяляліся прыхадні з Усходу — савецкія і партыйныя работнікі, вайсковыя асаднікі. Такім чынам з-пад польскага сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту заходнія беларусы трапілі ў верасні 39-га пад прыгнёт бальшавіцкай таталітарнай машыны. Вынікам таго савецкага «вызвалення» трэба лічыць не толькі ўз'яднанне беларускай тэрыторыі ў адну рэспубліку, але і «вызваленне» вялікай колькасці нашых суайчыннікаў ад прадпрымальнасці, працавітасці, культуры і духоўнасці. ■

## КАМЕНТАР навінаў

Кожны народ павінен разглядаць гістарычныя падзеі з пункту гледзішча карыснасці для сябе: для сваёй дзяржавы, культуры, мовы, эканомікі і да т. п. Калі глядзець на сэнс 17 верасня так, дык уз'яднанне беларускага народа пасля двух дзесяцігоддзяў раз'яднанасці — вельмі важная станоўчая падзея. Так, у Польшчы не было НКУСа, але для беларусаў была Бяроза-Картузская і дэфензіва. Не было русіфікацыі, але замест абяцанай у 1921 годзе аўтаноміі здзейснілася актыўная паланізацыя — польская школа, асадніцтва. Варта прыгадаць, колькі гадоў адседзеў па турмах Браніслаў Тарашкевіч, знаны дзеяч Таварыства Беларускай школы.

Буйныя баі ў верасні 1939 года адбываліся не толькі за Гродна, але за Навагрудак, Скідаль, Вільню, у Аўгустоўскіх лясах на Падляшшы, а значныя баявыя сутыкненні былі пад Нясвіжам, Валожынам, Слонімам, Маладзечнам. А польскае супраціўленне (Армія Краёва) на заходнебеларускіх землях працягвалася да пачатку 60-х гадоў. Пры ўсіх бедствах, якія нёс таталітарны сталінскі рэжым, Беларусь пасля 17 верасня перастала быць падзеленай на дзве часткі. А гэта наш вечны і незабыўны боль. Больш шырока пра гэта апавядае матэрыял «Мір у Рызе» ■

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 599 Нумар падпісаны ў друк 16/09/99 (15:00) Наклад – 21.130